„Ходзіць сьвёкар па двару,
Расчасаўшы бараду“.

Гэтаю песьняю мяне часта дражнілі дома, бо калісь я яе сьпяваў, неміласэрна гаркаючы—я ня мог тагды вымавіць чыста „р“, а казаў „рл“, гэта і паслужыла прычынаю таго сьмеху, ад якого я часта аж на сьцяну лез.

Чаму яна, гэта песьня, прышла цяпер мне на памяць, я не магу растлумачыць.

А зьвер стаяў на адным месцы, загарадзіўшы мне дарогу. Ён стаяў нярухліва, толькі зрэдка, і то чуць-чуць заметна, варушылася яго страшная галава й вялізарныя вушы. Думкі аб тым, як разьмінуцца з гэтым зьверам і як занясьці дзядзьку полудзень, у мяне ня было, бо я быў цьвёрда пэвен у тым, што далей таго месца, дзе я стаю цяпер, я ня зрушуся ні на адзін крок. Разгледзеўшы зьвера, я праканаўся, што гэта быў воўк. Я колькі разоў бачыў ваўка, але такога вялікага і страшнага мне ня прыходзілася бачыць ніколі.

„Чаго-ж ён так узіраецца на мяне? Чаму ён ня кідаецца і не хапае?.. Эх Галас, Галас! Чаму ты не пабег са мною?“ Мяне ахапіў нейкі жаль, і я гатоў быў заплакаць. Мне так шкода стала свайго дому, мамы і таты, братоў і сясьцёр! „Эх, мілы мой братка Алесь! І за што -толькі дражніўся і біўся я з табою! Ох, гад-жа я, гад печаны! Як толькі хапала ў мяне дзёрзасьці сказаць табе кепскае слова і падняць на цябе руку! Як мог павярнуцца мой язык, каб сказаць табе „Булавешка?“

Я быў цяпер у становішчы тэй мухі, якая заб-

луталася ў павуціне, а павук ужо рыхтаваўся, каб высмактаць з яе ўсе сокі. І што мне рабіць? Чаго стаіць гэты пракляты воўк? Чаму ён ня душыць мяне? Чаго ён мучыць?

А воўк, як-бы насьмяхаецца з мяне, стаіць, пазірае, зачароўвае мяне сваім зьвярыным поглядам.

Мімаволі я пачаў памаленечку адступаць назад, ня спушчаючы вачэй з воўка. Воўк нічога—стаіць! Мне стала чуць лягчэй. Я ступіў назад яшчэ, яшчэ. Ужо крокаў дваццаць адышоўся я такім парадкам. Воўк чуць-чуць ужо відаць, але не варушыцца.

Павярнуўся тагды я—у аднэй руцэ палка, у другой збан з дзядзькавым полуднем—і як засмаліў, як папрылёг! Азірнуўся назад тагды толькі, калі з лесу пачала выплываць наша хата. Тут я спыніўся, пайшоў ціха і важна, думаючы аб тым, як павясьці дома апавяданьне аб гэтым выпадку.

На двары мяне сустрэціў Галас і кінуўся да мяне кулём.

— Ідзі, ідзі: я цябе пачастую!

І як толькі Галас хацеў падскочыць, каб лізнуць мяне ў твар, я злосна штурхануў яго нагою.

— А каб ты апруцянеў, нягоднік ты!

Я ўвайшоў у хату.

— Чаму-ж ты вярнуўся,—спытала мяне мама.

Я стаў расказваць, што было ў дарозе.

Расказваў я далёка ня так складна, як гэта было ўжо зложылася ў маёй галаве.

Матка выслухала мяне ўнікліва, але не сказала таго, што ўсё гэта спатканьне—плод майго палахлівага ўяўленьня.

А як вечарам прышоў з лесу мой тата і сказаў, што ў Пятровіцах (як раз недалёка ад месца, дзе быў гэты выпадак) воўк патрывожыў пастухоў і авечак, то ўсе ў нас дома пракаваліся, што я запраўды спаткаўся з воўкам.

Нядзелі праз дзьве давялося мне зноў ісьці па гэтай дарозе. Але цяпер я быў не адзін—я йшоў на крокззаду за сваім айцом. Прышоўшы на гэтае самае месца, я зірнуў туды, дзе стаяў воўк.

І што-ж вы думаеце?

Гэты самы воўк стаяў і цяпер!

Нічога не сказаў я свайму айцу, іду і пазіраю.

Бадай-жа ты спрахла: гэта была старая крывая бярэзіна, абросшая мохам і нахіленая над долам!

Я баяўся сьмеху і нікому не казаў аб гэтай памылцы і толькі цяпер, мае дарагія, прызнаюся вам ва ўсёй гэтай праўдзе.

# „ДЗЕРАВЕНШЧЫНА“.

Як яно будзе далей, сказаць трудна. Скарэй усяго, што кепска; і сам Міхалка так думае, стоячы на каленках па некалькі разоў на дзень.

Ён ужо кінуў і жаліцца сабе самому на сваю долю і пакорна згінаў калені ў куточку. І гэты куточак стаўся яму нават блізкі, як-бы родны. Ды яно й ня дзіва: тое месца, дзе ронім мы першыя сьлёзы і пакідаем частку сябе самых, становіцца дарагое для нас. А ў гэтым кутку Міхалка многа чаго перадумаў. І адзін толькі ён, гэты куток, знаў усе яго думкі, бо пагаварыць тут няма з кім.

Ох, гэты горад! На пакуту сюды ўзялі малога Міхалку. А горш за ўсё, дык гэта тое, што ніхто тут яго не шкадуе, ніхто за яго не закіне слова. А часамі выскачыць ён на двор, куды забяжыць зьнячэўку які сабака, можа такі самы няпрыхільнік у горадзе, як і сам Міхалка,—каб хоць з сабакам адвясьці душу. І толькі пачне Міхалка заводзіць знаёмства з ім, кінуўшы яму перад гэтым кусочак хлеба (а хлеба, ня ўкраўшы, ня возьмеш), як ужо братавая барабаніць рукою ў шыбу.

Міхалка ўжо ведае, што яму рабіць: ідзе ў хату і займае свой куточак, становячыся на калені. Сам

Міхалка, калі хто выпадкам запытае, чаго ён стаіць на каленках, тлумачыць так: я яшчэ — „дзеравеншчына“, ня знаю гарадзкіх парадкаў і кепска трымаю сябе. От з мяне і выбіваюць „дзеравеншчыну“.

— А ты любіш вёску, паехаў-бы туды?

Раней, чым адказаць, Міхалка баязьліва азірнецца і ціханька скажа:

— Паехаў-бы.

Праўда, Міхалка нядаўна прыехаў з вёскі. Але гэта толькі гаворка адна—„прыехаў“. Проста забралі яго сюды—і ўсё, бо дома ня было дзе дзецца. Бацька памёр, маці памёрла, от і забралі яго сюды. Цяпер ужо нічагутка—прывык; але спачатку дык было надта кепска. Сядуць, бывала, за стол. На маленькім століку каля дзьвярэй стаіць самавар: скавыча ён на ўсе галасы або пішчыць, як тая сьвіньня ў плоце, аж пара з яго верне. На стале стаіць масла; тут-жа ў місцы ляжаць цэлыя кавалкі мяккай і белай булкі і такая, на яе ліха, цікавая, што Міхалка ня можа адарваць ад яе вачэй.

— Чаго ты ўтарапіўся, як воўк на парасё?

Міхалка спускае вочкі і бярэцца за гарачую шклянку і тут-жа борзьдзенька адрывае ад яе апечаную руку. Шклянка з гукам кідаецца на іспадак. Гарбата, як-бы яе чэрці таўхануць, разьліваецца па стале і на порткі Міхалку. Міхалка схватваецца з крэсла і стаіць, расставіўшы рукі.

— Сьвінюк ты!—чуе ён сярдзіты голас брата.

— У карыце трэба цябе карміць,—дадае братавая.

Згарэў-бы ты лепей, гэты чай і гэта булка, якая цяпер ужо і ў рот ня лезе Міхалку.

А калі абходзіцца без таго ліха, то, выпіўшы шклянку, Міхалка павінен быў падзякаваць. Тут ізноў не заўсёды абходзілася шчасьліва. Заміж „благодарю“, ляпне Міхалка ні к сялу ні к гораду „дзякую“.

Што за „дзякую“?!.

Міхалка чуе, што вушы яго чырванеюць. Яму неяк сорамна сказаць „благодарю“,—здаецца, усе яго на сьмех падымуць.

Але ўсё гэта было раней. Цяпер ён навучыўся казаць „благодарю“ і „благадарыць“ і калі трэба і калі ня трэба. Ды йзноў-жа, з адным „благодарю“ на сьвеце не пражывеш:—зноў знайдзецца якое-небудзь ліха. А што гэта ліха ня зводзілася, то можна было бачыць хоць-бы і з таго, што Міхалка па колькі разоў у дзень стаяў на каленках. То скажаш ня так, то ступіш ня гэтак, і за ўсё пападала то вушам, то каленям. Дайшло да таго, што Міхалка марыкаваў на вушы і калені. Няхай-бы былі сабе дзірачкі ў галаве, але на чорта былі яшчэ гэтыя храсткі? Або ногі? ці ня лепш было-б, каб яны ня згіналіся? Тут Міхалка прабаваў хадзіць, ня згінаючы ног.

Выходзіць, што можна. Найгорай было яму вясною і летам, калі сіняе неба ласкава зьвесіцца над зямлёю, як маці над калыскаю, дзе ляжыць яе любое дзіцятка. А гэтыя хмурынкі! Хто іх ведае, адкуль яны павыпаўзаюць і куды йдуць так згодненька, такія мілыя ды прыветныя. От-бы ўзяў ды сеў на іх і паплыў-бы разам з імі, каб толькі далей быць адгэтуль Сонейка так хорашанька заглядае ў вокны. У садку шчабечуць птушкі. Верабейчыкі з вясёлым чырканьнем снуюць у паветры.

Міхалка доўга пазірае ў вакно. У канцы ў яго не хапае сілы працівіцца кліку вясны, і ён, азірнуўшыся, каб яго не затрымаў хто, ціха выходзіць на двор.

Прытуліўшыся дзе-небудзь каля вугла, доўга стаіць Міхалка. У гэтыя мінуты ён нічога ня думае. Ён толькі чуе, як прыемнае цяпло песьціць яго маленькае цельца. І добра так і радасна на сэрцы. А што робіцца на душы, то гэтага і ня скажаш. Толькі часамі замігацяцца родныя зьявы далёкай вёскі, дзе Міхалку так вольна жылося, і сэрца нешк ападзе, калі ўспомніць ён сваё тут жыцьцё. Там, на вуліцы, чуваць, як тупаюць па тратуарах ногі, як грукаюць капытамі па бруку коні, як шуміць і гудзе многагалосы горад.

Доўга стаіць так Міхалка. Потым, ні з таго ні з сяго, захочацца прабегчыся, і ён, як куля, рванецца на двор, ганяецца за верабейчыкамі, пакі братавая ня крыкне на яго, каб ішоў забаўляць Лідачку.

Усе чары прападаюць у яго душы і, уздыхнуўшы, нехаця пляцецца ён у хату. А тут яшчэ горай апануюць яго думкі, яшчэ мацней пацягне яго на двор, яшчэ з большаю сілаю, яшчэ ярчэй устануць прад вачыма дзіўныя малюнкі роднай вёскі.

Дом, дзе жыў Міхалка, стаяў на краю гораду. Глухаватая вуліца, наабапал якой ляпіліся дзервяныя домікі, скора выхадзіла за горад, у поле. Міхалка не адзін раз выбягаў на гэту вуліцу і нюхам вясковага чалавека ўгадваў, што недалёка тут павінна быць поле. Раз ён, выбегшы на вуліцу, адышоўся ад дому. Тут ён ужо ня мог стрымацца і пабег да таго ўзгорку, што вясёла пазіраў жоўтым скатам сваіх пяскоў. Міхалка ўзьляцеў на гэты ўзгорак. У нізе расьцілаўся го-

рад з блішчастымі вежамі цэркваў і касьцёлаў. То там, то сям высака ў небе тырчалі трубы фабрык і заводаў, распускаючы па ветры доўгія хвасты чорнага дыму. А з другога боку раскінулася поле, чарнеўся лес і вясёлыя пералескі, а там, яшчэ далей, чуць-чуць выступалі з сіняватай смугі стрэхі мужыцкіх хат. І так моцна пацягнула Міхалку туды, што аж душа яго млела. І так ярка прыпомнілася яму свая вёска, што, каб меў крыльлі, то ўзьняўся-б і паляцеў-бы. Міхалка ўсё цікаваўся ў адзін бок. Там, здавалася яму, павінна быць дарога да роднай вёскі. Божа мой! як добра ў вёсцы! От Міхалка стаіць тут, на гэтым узгорку, а яна вось-вось, здаецца, тут перад самымі яго вачыма. І так ясна, як цяпер, ня бачыў ён яе і тады, калі жыў у ёй. Вось высокі касагор над самым Нёмнам. Пад гэтым касагорам стаяць пахіленыя старыя вербы, дзе так многа было калісь ракаў. Там ляжыць зялёны луг, а за лугам цягнецца высокі і заўсёды пануры лес. Гэтага лесу Міхалка калісь баяўся. Асабліва нешта страшнае і няпрыветнае прыдаваў яму густы алешнік, што зялёным доўгім валам цягнуўся каля самага лесу. Цяпер-жа гэты лес быў такі мілы і жаданы, што, каб прымеў, то абняў-бы яго і цалаваў. Міхалка так задумаўся, што ня чуў, як да яго падышоў брат.

— Чаго ты тут, шыбельнік?—спытаў брат і крэпка пацягнуў Міхалку за вуха.

Міхалка задрыжэў увесь, як злоўлены праступнік.

— Пайшоў да дому!

Хлопчык, прылажыўшы руку да вуха, каторае быццам гарэла на агні, пабег дамоў, ня сьмеючы зірнуць у бок.

За самавольства забаранілі яму гуляць на дварэ. Але Міхалка не абразуміўся.

Куды там! Ён задумаў такую рэч, што ўсе дзівіцца будуць. А покі-што ціхачом ён рыхтаваўся споўніць тое, што задумаў. У самы глухі куток пад ложкам, дзе нават венік служанкі іх, Насты, рэдка калі зазіраў, складаў Міхалка розныя прыпасы на дарогу, бо Міхалка задумаў уцякаць адгэтуль. Тут ён запасіў з восем кусочкаў цукру, акрайчык хлеба з асушкам. Праўда, хлябок высахне, але Міхалка знайдзе ў дарозе крынічку і размочыць яго. Усе гэтыя прыпасы ляжалі на газэце, каторую Міхалка цішком узяў са стала. Разам з гэтымі прыпасамі ляжаў мячык і чалавек з гумалястыкі, у каторага трэба было толькі дзьмухануць, каб ён загукаў, як жывы. Усё гэта Міхалка адкраў ад Лідачкі. Мячык і чалавечка ён дасьць сваім сябром, бо хто-ж ідзе з гораду без гасьцінца? Асталося толькі пашыць торбачку, каб забраць увесь скарб з-пад ложка. А там... ад аднэй гэтай думкі лёгка рабілася на сэрцы.

А наўперад ён яшчэ па дарозе зайдзе ў тую вёску, дзе яго брат служыў летась. У гэтай вёсцы Міхалка згубіў многа грошай—капеек пятнаццаць медзякамі. А найсьці іх лёгка, бо Міхалка, як цяпер, бачыць тое месца, дзе згубіў іх; не знайшоў-жа іх тагды затым, што скора перабіраліся ў горад і ня было калі пашукаць, як належыць быць.

Доўга ня мог заснуць Міхалка ў суботу вечарам перад Сёмухай: заўтра рана, досьвіта, выбярэцца ён у дарогу. У тых думках, што цяпер мятушыліся ў яго галаве, трудна было разабрацца... Э, ды што!

Устане і пойдзе: пойдзе перш да таго ўзгорку, адкуль ужо лёгка папасьці на дарогу... Скарэй-бы толькі заснуць ды ўстаць заўтра раней. Міхалка плюшчыў вочы, але сон, як сумысьля, ня йшоў да яго, і толькі можа пад поўнач заснуў Міхалка. Ня гледзячы на гэта, устаў ён ранютка, асьцярожна падняў галоўку, разглядзеўся, прыслухаўся. Брат і братавая спалі; нават гэта жаба, Лідачка, і тая ня рушылася. Ціханька адзеўшыся, Міхалка павольненька выцягнуў сваю торбачку, у каторую яшчэ з вечара злажыў ён усе свае манаткі. Прыгатаваўшыся, як мае быць, ён яшчэ раз азірнуўся і, трасучыся ўвесь, падкраўся да дзьвярэй і ўзяўся за ключ. Павярнуў раз і абамлеў: ключ, на яго ліха, так загрымеў, што напэўна ўсе абудзіліся. Са страху Міхалка выпусьціў з рук торбачку. Усё было ціха. Відаць, ніхто ня чуў. Узяўшы торбачку, Міхалка ціха скрыпнуў дзьвярмі і вышаў на двор.

Ня ведаю: ці на дабро ці на няшчасьце Міхалкі вароты на дварэ былі замкнёны; агарожа-ж была такая высокая, дашчаная, што ўляпіцца было недзе. Колькі мінут Міхалка парыўся на дварэ, шукаючы пералазу. І ня думаў ён ніколі, што гэтае здарэньне папсуе яму ўсю справу! Можа-б і пералез як, але на бяду трэба было якраз цяпер выйсьці на двор яго брату!

Міхалка думаў, што ўжо яму цяпер будзе канец— так крэпка лупіў яго брат.

І што ты зробіш, калі не шанцуе? Міхалка, як і наўперад, жыве ў горадзе і толькі тым і цешыць сябе, што тагды напэўна будзе яму палёгка, як выб‘юць з яго „дзеравеншчыну“.

# У СТАРЫХ ДУБОХ.

Цэлы гай старасьвецкіх дубоў раскінуўся па беразе Нёмна.

Такіх дубоў цяпер рэдка дзе ўбачыш. Іх не чапіла рука людзкая, толькі доўгія часы палажылі на іх свой сьлед—пячаць глыбокай старасьці. І многа ўсякіх зьмен часаў бачылі гэтыя нямыя сьведкі прошласьці! Жыцьцё многіх людзкіх пакаленьняў прайшло перад імі і праходзіць, бы тыя хвалі Нёмна, што пакручастым зьмеем абвівае тут іх сялібу, іх высокі, роўны груд; а яны ўсё стаяць, спакойныя, важныя, і жывуць сваім асобным жыцьцём. Праходзяць дні, ідуць сваёю чарадою зімы і леты з іх халадамі і сьпякотамі, з іх бурамі і навальніцамі, а яны спакойны, як чалавек, каторы ўсё пераведаў на сьвеце, усё пераажыў і ўжо нічога новага не чакае ад жыцьця, апроч сьмерці. Зваленыя-ж на дол таўстыя камлі з асмаленымі з нізу жараламі іх таварышаў напаміналі жывым аб апошняй іх долі.

У леце пачыналася ўжо тая чуць значная зьмена, той паварот часу, калі жыцьцё прыроды йдзе на ўбытак. Скошаны луг і раскіданыя курганамі стагі, парыжэлыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі—аб гэтым уміраньні. Буслы зьбіраліся ў чароды і доўга стаялі

па грудох, або ляніва аглядалі лагчыны. Але было заметна, што не на пажытак пазьбіраліся яны сюды, а для якойсь-та другой справы. Пастаяўшы, павольна адзін за адным уздымаліся яны ў гару, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх усё вышэй і вышэй. Там яны спляталіся ў адну фігуру, у адзін шырокі круг і, не махаючы крыльлямі, плаўна і сагласна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх нябёсаў... Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках бусьляных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістом, і купалі на сонцы свае адвечныя лапы.

На скошаным лузе, недалёка ад дубоў, пасьвіліся стадкі. Там і сям сядзелі пастушкі. У кожнай іх кучы былі свае інтарэсы, свае забаўкі і гутаркі. Сонца даўно ўжо зьвярнула з поўдня, але сьвяціла яшчэ горача. У паветры было ціха, толькі звон лятнікоў (кузуркі, падобныя да пчол) зьліваўся ў вадну доўгуюдоўгую, аднатонную песьню, і, здавалася, прырода была закалыхана гэтым крыху сумным звонам. Маленькія камарыкі-таўкунчыкі кучкамі гулялі на сонцы, як-бы чыясь-та нявідная рука трасла ў паветры маленькую сетачку.

— Чаго яны таўкуцца тут?—спытаў Грышка свайго таварыша Базыля і махнуў рукою па кучцы камарыкаў.

— Гуляюць,—кажа Базыль:—ты думаеш, і ім ня хочацца пагуляць? Цяпер іх час, і гуляюць.

Базыль і Грышка, найлепшыя дружакі. Даўно ўжо цягнецца іх дружба—як запамятуюць. Дзьве зімы ў школцы сядзелі яны на аднэй лаўцы і трэцяе лета пасуць разам кароўкі.

Калі катораму маці дасьць у торбачку сала, то гэтае сала разрэзвалі па палове і пяклі яго на ражончыках. А смачнае сала, сьпечанае над агнём у полі! Прыгнаўшы з раніцы, хадзілі разам лавіць рыбу і купацца.

І ні з кім яны ня злучаліся і, апроч свае кампаніі, другой не хацелі. Раз толькі сварыліся хлопцы і пасварыліся за глупства—за ножык-цыганчык, катораму ўся цана—тры грошы. І толькі ў злосьці назваў Грышка Базыля Насалём—у Базыля быў даўгаваты нос,—а Базыль Грышку абазваў Рабэйзаю.

Але рэдкія здарэньні лаянкі толькі на кароткі час раскідалі іх дружбу, і хлопцы скора зноў гадзіліся, пасьля чаго, Базыль, водзячы пальцамі па носе, гаварыў:

— Здаецца, мой нос, Грышка, не такі ўжо вялікі?

—Твой нос—мерны нос. Вось я, дык праўда рабы!

Гаворачы так, Грышка хацеў учуць пацьвярджэньне Базыля, што ён ня так-та рабы, бо сам Грышка ня лічыў сябе рабым.

— Што тваё за рабаценьне!—казаў Базыль:—зімою зусім ня знаць, а цяпер проста сонца трошкі асмаліла твар.

І хлопцы зноў былі дружакамі і пачыналі гульню або гаворку аб чым-небудзь. Гаворка ў іх бадай ніколі не звадзілася, а вакруг было так многа ўсяго, што давала ім страву для гутарак.. Улягуцца часамі хлопцы пад дубам. Грышка ляжа на сьпіну і колькі мінут моўчкі ўглядаецца на той дуб, пад каторым ляжалі.

— Як ты думаеш, Базыль: ці ёсьць на сьвеце такі чалавек, каторы-б панёс гэты дуб?

Базыль акідаў вокам дуб і, крыху падумаўшы, казаў:

— А пэўна ёсьць.

І тут-жа расказваў свайму сябру здарэньне з якім-небудзь асілкам. Так адзін мужык (Базыль нават назваў яго прозьвішча) паехаў красьці хвою ў княжацкі лес. Сьсек ён такую таўстую хвою, што і два чалавекі не абнялі-б яе. Узваліў на воз і паганяе каня. Конь—ані з месца! А якраз насунуўся лясьнік. „Стой-жа“ думае ён: „нідзе ты ня дзенешся: не ўцячэш ты з гэтай хвояй,“ і сам пазірае, што будзе далей. Чалавек гэты, нічога не гаворачы, выпраг каня, прывязаў яго да канца калоды і, сказаўшы: „няхай-жа будзе брыдка каню,“ узяўся за аглоблі і пацягнуў калоду! Лясьнік толькі галавою пакруціў—і слова не сказаў мужыку.

— Вось каб мы былі такія дужыя: усіх-бы зарэчанцаў пабілі!—уздыхнуўшы, гаварыў Грышка.

— Вось дзіва! што-ж іх тады біць: дзьмухнуў-бы, і ўсе-б пакідаліся.

— А ці праўда, што наш Нічыпар Шулай дужаўся з чортам?—запытаўся зноў Грышка.

— Нё-ж не: у яго самога чортава рабро—яго ніхто не пакоціць.

— Ну, ніхто! а калі у каго два рабры?

— Ведама, паборае той, ў каго два... Але мусіць той, хто мае чортава рабро, пойдзе ў пекла,—памаўчаўшы, зноў сказаў Базыль.

— Чаму ў пекла? Ён-жа родзіцца з гэтым рабром. Калі і пойдзе хто, дык пэўне маці, бо яна з чортам любілася,—сказаў Грышка.

Базыль на гэта нічога не адказаў і задумаўся.

— А каб табе, Базыль, сказалі: „Умірай цяперака і ты пойдзеш у рай.“ Ці згадзіўся-б ты ўміраць?

— Не!—адказаў ён.

— Чаму?

— Мне было-б там маркотна аднаму; а тут усе: бацькі, хлопцы, ты. Каб са ўсімі, то пайшоў-бы.

— І як гэта памрэ чалавек, што з ім робіцца? —як-бы сябе самога пытаў Грышка.

— Што-ж? душа выходзіць. Прыдзе сьмерць і памрэш. Зеханеш разоў два і няма!.. Я бачыў, як уміраў мой дзед Гаронім. У хаце мы былі адны з дзядзькам. Як дзед сканаў, дык дзядзька адчыніў комін.

— Навошта?—спытаў Грышка.

— Каб душа выходзіла... І страшна, брат, страшна стала!

—Я-б у хаце ня ўседзеў!—страпянуўшыся, сказаў Грышка і потым дабавіў.—Вось, каб яе пяруны, з гэтаю сьмерцю. Каб злавіў дзе, халеру, ды спаліў. Тады людзі жылі-б і жылі.

— Калі-ж-бо для яе няма сьмерці.

— У сьмерці няма сьмерці. Сказаўшы гэта, Грышка ўглыбіўся ў думкі.

— Што-ж, брат, каб гэту сьмерць узяла другая сьмерць, дык зноў-бы сьмерць асталася. Ніяк, брат, ад яе ня выкіруешся.

— А што, Грышка, калі я памру і па сьмерці буду прыходзіць да цябе, ці будзеш ты баяцца?

— Кіньма гаварыць! чорт яе бяры з сьмерцю,— сказаў Грышка, падняўся, азірнуўся і пачаў сьвістаць, каб адагнаць паганыя думкі.

Хлопцы сьціхлі і задумаліся.

Было тут у дубох адно месца, дзе Базыль любіў сядзець, пазіраць і думаць.

Гэта было тое месца, дзе над абрывістым берагам Нёмана стаяў стары, прысадзісты, таўсты дуб. Ад доўгіх часаў бераг, падмываны вадою, паволі асоўваўся і агаляў тоўстае карэньне старога дуба. Сам гэты дуб крыху пахіліўся набок, як падгуляўшы гаспадар, а аголены і працягнуты пад вадою яго корань здаваўся нагою, і выходзіла здалёк так, што дуб зьбіраўся перабрысьці Нёман. Сеўшы на гэтым корані, Базыль пазіраў, як беглі дробныя хвалі, як зьвівалася ў вадзе доўгая раса; вада то ўздымала яе, то апускала, то раскідала ва ўсе бакі і гуляла ёю, як вецер дымам.

Каля самага берагу стаяў у вадзе голы лазовы ражон. Ён тое і рабіў, што борзьдзенька ківаўся пад напорам вады. І ніколі ня меў спачыну гэты ражон: і ў дзень і ў ночы ківаўся ён, як багамольны жыд. Хіба можа зімою, як маразы скуюць лёдам ваду, адпачыне гэты пахілак-ражон.

Базыль пазіраў і думаў.

А вакруг было ціха. І Базылю здавалася, што ён чуе сьпевы гэтай цішыні. Доўга ён прыслухоўваўся, але сьпевы былі нейкія невясёлыя, і яму стала маркотна: усё йшло, здавалася яму, сваёю дарогаю і жыло сваім жыцьцём, сярод каторага ён пачуў сябе чужым.

А Грышка тымчасам бегаў па беразе і зварочваў у ваду навіслы бераг. Якраз на тым баку йшоў з вудамі рыбак.

— Дзядзька!—гукнуў Грышка:—перакінь мне закурыць!

„Дзядзька“ азірнуў Грышку і сказаў:

— Пакуры, браце, у сабакі!

— Рыбак дурак! У рыбака голыя бака!—адказаў яму на гэта Грышка.

— А-а-а! гэта-ж, здаецца, той самы, што пакраў яйцы з-пад сучкі?—гукнуў з таго берагу рыбак.

Ня сьцяміўшы насьмешкі, Грышка не знайшоў нічога сказаць і толькі спытаў:

— З-пад якой сучкі?

— Што брэша з-пад анучкі.

— Каб ты-ж, дай бог, нічога не злавіў, каб ты ўсе вуды папарываў!

А рыбак рагатаў і начэпліваў на вудачку чарвяка.

Пабегаўшы па беразе яшчэ колькі часу, Грышка пайшоў шукаць Базыля. Углыбіўшыся ў свае думкі, Базыль нічога не ўважаў і сядзеў усё на тым-жа дубовым карэньні, дзе сядзеў і раней. Зьвесіўшы ногі над вадою, пазіраў ён уніз, як цёк Нёман. Тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіні. Аб чым-жа думаў хлопчык? Відаць, нешта важнае і сур‘ёзнае, бо губы яго былі шчыльна самкнуты, а вочы пазіралі куды-та ў глыб. Схаваўшыся за куст, Грышка моўчкі паглядаў за сваім сябрам. І бяз усякай злой мысьлі раптам вылецеў з-за куста і гукнуў на ўсю моц:

— Га-а!

Зьнячэйку Базыль так перапалохаўся, што ўвесь задрыжэў і падскочыў. Спужаўшыся, ён ня мог ужо ўтрымацца і ссунуўся ўніз. На момант, зачапіўшыся лапцем за дубовы корань, павіс галавою над гладзьдзю вады, а потым шугнуў і... прапаў з вачэй. Нёман зьлёгка здрыгануўся, вада расступілася і дала няшчаснаму хлопчыку месца ў мокрых і халодных сваіх нетрах, ды колькі кругоў пабегла па вадзе ва ўсе бакі. Разы два ці тры паказалася яго галава; рука нязграбна і сударажна лавіла паветра; зрабіўшы паўкруг і захлёбываючыся, прапаў на зусім...

Грышка ня ведаў, што так можа кончыцца яго дурасьць, і ён падняў праразьлівы крык і лямант.

— А божа-ж мой! утапі-іўся!

— Гвалт, людзі, ратуйце!

Другія пастушкі зьбегліся на крык і прылучылі свой лямант.

Рыбак дабег першы. Скінуўшы адзежу, адважна рынуўся ён у ваду.

Зьбегліся людзі.

Заламаўшы рукі, маці разрываючым душу крыкам, галасіла і прычытала.

Як няпрытомная, кідалася яна ў ваду, ды яе трымалі мужчыны...

Сонца таксама пазірала любоўна і на гэту зьяву; таксама было ціха ў прыродзе, і ўсё жыло сваім жыцьцём. Старыя дубы стаялі спакойна, важна, як і заўсягды. Толькі галкі, спуджаныя людзкім крыкам, пазьляталі з дубоў, ды сіваваронкі з сярдзітым краканьнем кружыліся над дуплястымі дзеравякамі, як-бы

злуючы на тое, што патрывожылі бяз усякай прычыны іх прывольны спакой, і зьзялі на сонцы сваім зялёным пер‘ем.

Базыля выратавалі і адкалыхалі, але пасьля такога здарэньня ён утраціў голас і застаўся нямым.

---

# ПАД НОВЫ ГОД.

Была ноч, халодная зімняя ноч.

Сярдзіта падыхаў вецер і стукаў у вакяніцы.

Мароз ткаў на шыбах свае замыславатыя тканкі і размалёўваў іх прыгожымі рысункамі. А калі на гэтыя рысункі падалі праменьні ад лямпы, то яны рабіліся яшчэ прыгажэйшымі.

Было ўжо і позна, але горад яшчэ ня спаў, і ў дамох сьвяціліся агні.

Ня спала таксама і гэта хатка.

Замураваныя марозам шыбкі сьвяціліся бледна, чуць значна. Ня гледзячы на тое, што сёньня было пераддзеньне Новага Году,—у грубку палажылі дроў болей, у хатцы ўсё-ж-такі было холадна.

— Скажы, татка, што гэта такое Новы Год?—запытаў айца старшы сын Лявонка.

Яму было гадкоў сем ці восем. Гэта быў худзенькі хлопчык, бледны і кволы. Вочкі ў яго былі ясныя, як неба, і ў іх часта адбіваліся нейкія думкі.

Меншы брат яго, Сьцёпка, болей жывы і рухавы хлопчык, таксама ўскінуў на свайго татку вочкі і чакаў адказу, бо яго зацікавіла пытаньне брата.

— Тата! што гэта Новы Год?—запытаўся і ён, залажыўшы за сьпіну ручкі.

— Новы Год?..—прамовіў бацька і задумаўся, каб прасьцей растлумачыць дзецям Новы Год.

— А вось бачыце, дзеці: была вясна, было лета, восень. Цяпер у нас зіма, дзянёк ужо прыбывае, і мы будзем чакаць другую вясну. Дык вось гэты час, у які праходзіць вясна, лета, восень і зіма, і называецца годам. Адзін круг зьмен часу мы перабылі, а з заўтрашняга дня мы зачнем другі круг. Вось гэты першы дзень, які зачынае сабою новы круг часу, і называецца Новым Годам.

Дзеці слухалі вельмі ўважліва. Як толькі скончыў бацька сваё тлумачэньне, Сьцёпка зараз-жа даў запытаньне.

— Тата! Новы Год добры ці злы?

— Калі людзям жыць будзе добра, то людзі скажуць: „Гэты добры год“, а калі цяжка, то год будзе нядобры.

— А калі Новы Год прынясе табе многа-многа мільёнаў грошай, ты купіш мне шакаляду?

— Не,—прамовіў Лявонка,—ты купі нам араплян. Мы сядзем у араплян і будзем лятаць... Абы толькі Новы Год быў добры. Праўда, Сьцёпка?

— Не,—не згадзіўся Сьцёпка,—лепей купі нам паравоз.

Тут дзеці заспорылі, што лепей—паравоз ці араплян. Пасьля доўгай спрэчкі Сьцёпка быў вымушан зьвярнуцца да таты, каб тата сам разьвязаў іх спрэчнае пытаньне.

— А я бачыў на малюнку, што год гэта такі чалавек. У яго ў мяшкох зложаны розныя дары, і ён ходзіць па сьвеце і дае іх людзям,—сказаў Лявонка.

— Ага!—падтрымаў Сьцёпка брата,— год—гэта дзядок, і многа ў яго гасьцінцаў! Цукеркі, белыя булкі, цукер, яблыкі...

— Бедныя дзеці!—уздыхнула мама,—цяжка ваша дзяцінства!

Тут мама стала ўспамінаць тыя часы, калі яна была малою і было ўсяго многа.

— А цяпер чаму няма?—спытаў Сьцёпка.

— А я ведаю чаму,—прамовіў Лявонка.

— Ну, чаму?

— Бо тады быў добры год.

— Мама, праўда, тады быў добры год?—запытаў і Сьцёпка.

— Для адных ён быў добры, а для другіх злы —адказаў айцец:—і тагды, дзеткі, было многа людзей, якім жылося цяжка.

— Чаму?—запыталіся хлопчыкі.

— А таму, што ніколі на сьвеце ня было справядлівасьці.

— А нашто гэта справядлівасьць?

— Справядлівасьць трэба для таго, каб ня крыўдзілі чалавека.

— А што гэта справядлівасьць?

— Справядлівасьць—гэта мера, якою трэба адмерываць людзям так, як яны таго заслужылі.

— Я буду чакаць Новага Году,—як-бы ў адказ сваім думкам зазначыў Лявонка.

— І я буду чакаць,—азваўся і Сьцёпка.

Хлопчыкі прыціхлі. Кожны з іх думаў сваю думку. Мама такім-жа чынам моцна над чымся задумалася. Уся выраза яе твару казала за тое, што думкі

яе былі невясёлыя. Дый з чаго ім быць вясёлымі, калі нават нечым спаткаць Новы Год? Тата хадзіў ад сьцяны да сьцяны сур'ёзны і нахмураны.

А на дварэ бушаваў вецер. Як відаць, ён быў чымся нездаволен. Можа ён гневаўся за тое, што ніхто ня слухаў яго, бо тое, што ён казаў, на яго погляд было вельмі цікава. Ён залятаў у комін, выў, сьвістаў, заліваўся жудасным сьмехам. Але і на гэта ніхто не зварачваў увагі. Тагды ён пачынаў біць у вакяніцы, стукаць у дзьверы і бегаць па даху.

— Чаго гэта шуміць так вецер?—спытаў Лявонка.

На яго запытаньне ніхто ня даў адказу.

Але тут сталася такое дзіва. Дзьверы ў хату адчыніліся, і на парозе зьявілася вельмі фацэтная фігура, высокага росту, такога высокага, што ў хаце яна мусіла стаяць прыгнуўшыся. Ногі ў яе былі птушыныя, рук зусім ня было—іх замянялі крыльлі. Цікавей усяго быў яе твар і галава. Галава, праўда, была чалавечая, але надта вялікая. Нават для свайго росту гэта фігура мела залішне вялікую галаву. Гэты незнаёмы госьць меў такія доўгія і тоўстыя губы, што нельга было пазіраць на іх, каб не засьмяяцца. Наогул сказаць, ня гледзячы на ўсе гэтыя нязвычайна цікавыя злучэньні, госьць зусім ня быў страшны. І ніхто ў хаце не зьвярнуў на яго ўвагі. Адзін толькі Лявонка ня стрымаўся і пачаў сьмяяцца. Незнаёмы госьць падышоў да яго бліжэй. Вялізарныя губы яго таксама расплыліся ў самую вясёлую ўсьмешку.

— Чаму ў цябе, дзядзька, такія сьмешныя губы?—запытаў яго Лявонка.

— Бо ты такіх губ ня бачыў, і яны здаюцца табе сьмешнымі,—адказаў госьць.

— А я, дзядзька, ведаю, хто ты такі.

— Ну, хто?

— Ты—Новы Год!

— Не, галубок, ты крыху памыліўся. Я—Вецер. А Новы Год сядзіць у мяне на плячох.

Лявонка зірнуў на яго плечы. З-за плеч выглядала кучаравая галава. Яна пазірала на Лявонку і сьмялася.

— У гэту ноч мы павінны аблятаць увесь сьвет — прамовіў Новы Год.—Я даведаўся, што ты хочаш лятаць на арапляне. Табе, сынку, ня ўдасца мець свой араплян, бо твой тата ня мае грошай і на тое, каб накарміць вас, як трэба. Апрача таго, араплян ня можа доўга лятаць, і машыны яго псуюцца. А папсуецца машына, ён падае на зямлю і разьбіваецца. А вось, дзядзька Вецер,—найлепшы мастак па часьці лятаньня.

Пры гэтым Вецер прысеў на свае птушыныя ногі, прыгнуўшы сьпіну.

— Сядай, Лявонка, я ведаю: табе хочацца, нябось, палятаць?—запытаў ён.

— Хочацца, дзядзечка!

Тут Новы Год спрытна падхапіў Лявонку пад пахі і пасадзіў яго радам з сабою.

— Гатова!

Лявонка пачуў, што ён сеў у нейкае пухавое гнязьдзечка. Тут было цёпла, мякка і вельмі прыемна.

Як толькі Новы Год прамовіў „гатова“, Лявонка заўважыў, што столь і дах іх хаты адчыніліся. Дзядзь-

ка Вецер надзьмуў свае сьмешныя губы, і ўсе яны ў трох вылецелі на двор.

Ня гледзячы на тое, што была позная ноч, людзі яшчэ ня спалі.

— Дзядзькі!—зьвярнуўся Лявонка да сваіх спадарожных:—я хачу паглядзець, што робіцца ў гэтым доме, дзе так многа людзей і агнёў.

У адзін момант апынуліся яны сярод мноства народу, у вялізарным пакоі. У бакавым пакоіку грала музыка, грала так чароўна, што ня можна было наслухацца. Пад гэту музыку вяліся скокі. Скакалі дзесяткі, сотні пар; яны кружыліся, перавіваліся, і ва ўсім гэтым быў нейкі лад, пэўны парадак.

Па бакох стаялі сталы, застаўленыя бутэлькамі віна і загружаныя закускамі. Маладыя панічы і паненкі, пабраўшыся за рукі, падыходзілі да гэтых сталоў і частаваліся. Тут было шумна, весела й гаварліва.

— А чаму тут няма бедных і галодных?—запытаў Лявонка.

— А затым і няма іх, што яны бедны і галодны,—адказаў дзядзька Вецер. Яны ня маюць грошай, каб дастаць сабе білеты, яны ня маюць за што купіць дарагога віна і дарагіх закусак. Але ты, Лявонка, не зайздросьць іх шчасьцю. Вось глядзі, што тут будзе зараз!

Дзядзька Вецер перамігнуўся з Новым Годам і надзьмуў свае сьмешныя губы. Набраўшы духу, ён рaптам выпусьціў яго. Сьцены здрыгануліся, затрашчалі, сталы паперакульваліся, бутэлькі пападалі на падлогу і пабіліся. А людзі ў дзікім страху кінуліся наўцекі. Паднялася суматоха, кожны помніў толькі сябе. Усе

беглі, зьбівалі адзін другога і мітусіліся, як прыпёртая да берагу рыба.

— Вось бачыш, хлопча, як каротка людзкое шчасьце,—прамовіў Новы Год.

І яны паляцелі далей.

— Чакайце! чакайце!—закрычаў Лявонка,—я чую, як-бы хто плача і стогне там вунь, у тым страшным доме.

Падарожнікі спыніліся каля пахмурнага няпрыветнага дому. Тут было так цёмна, што нічога ня было відаць. Дзядзька Вецер зноў надзьмуў свае шырачэзныя губы, але на гэты раз дзьмухнуў ён угору на хмары. З-за хмар весела выступіў месяц і асьвяціў гэты астрог. Змучаныя, худыя, як цені, сядзелі тут людзі. Тут было цёмна, брудна і цесна, і людзям трудна было павярнуцца. Хто ляжаў, хто сядзеў, а хто пазіраў на ясны месячык. Усе яны былі смутныя.

— Дзядзечка Вецер!—просіць Лявонка:—надзьмі свае слаўныя губкі і дзьмухані на гэтыя паганыя сьцены!

— Гэта я магу,—сказаў Вецер. І раптам дыхнуў ён на сьцены!

У момант вока рассыпаліся яны, як парахно, а над няшчаснымі людзьмі расчынілася яснае неба. У нязвычайнай радасьці людзі сталі абнімацца і цалавацца.

— Мы вольны! мы вольны!—казалі яны.

— Бачыш, сынку,—сказаў Новы Год,—вялікае гора зьмянілася радасьцю.

Лявонка пазіраў, як гэтыя людзі поўнымі грудзямі ўцягвалі ў сябе сьвежае паветра, і радаваўся, гледзячы на іх.

— Ах, якія вы добрыя, дзядзечкі,—казаў ён сваім спадарожным.

Месячык сьвяціў з сярэдзіны неба, сьвяціў так ярка, што на зямлі зрабілася сьветла, як у дзень. Перад імі вынікалі гарады, мястэчкі, сёлы. Людзі спалі, бо было ўжо позна. Па вуліцах снавалі яшчэ нябачаныя Лявонкам нейкія цені. Яны былі неспакойны, суятлівы, бегалі, варушыліся, чагось шукалі, спрачаліся, махалі рукамі, часта накідваліся адны на другіх, біліся і грызьліся і ўсё ўзіраліся на людзкія памяшканьні.

— Што гэта?—запытаўся Лявонка.

— А гэта—людзкія Згрызоты,—адказаў Новы Год. — Вунь, бачыш, гэты вяртлявы цень? Гэта—людзкі Клопат, разам з ім па бакох ідуць Зайздрасьць, а гэта вось, з пазелянеўшым тварам,—Злосьць.

— А вось гэты суятлівы цень, што так неспакойна ўглядаецца ў вокны дамоў, як галодны сабака, і настаўляе вушы і нюхае носам, гэта—Небясьпека. Яна хоча падслухаць неасьцярожнае слова, каб пацягнуць каго да астрогу. А гэты цень, абвешаны шаблямі, пісталетамі, крывавы і страшны, гэта—Вайна. З ёю, бачыш, што з голым чэрапам і ўпалымі шчокамі, гэта—Голад. Яны снуюцца між людзей і не даюць ім жыць спакойна. Цэлы рой ценяў праводзіць вайну. Гэта—розныя Хваробы.

— Ух, дзядзечкі! як тут страшна!—сказаў Лявонка.—Мне прыкра пазіраць на людзкія Згрызоты.

— Умей, сынку, сьмела і спакойна сустрачаць няшчасьце,—адказаў яму Новы Год.

І раптам зьніклі перад імі гэтыя вуліцы і гэтыя надаедныя страшныя цені.

Перад вачыма падарожных вынiклi зусiм новыя малюнкi. Першае, што ўбачыў тут Лявонка, яго моцна зразiла. Цэлая грамада людзей, сухiх, як скураты, худых—адны косьцi, тонкiх, як палкi, з глыбока запалымi вачыма, кудысь беглi, кагось лавiлi. Як нi прыглядаўся Лявонка, ён ня мог прымецiць, за кiм гналiся гэтыя няшчасныя. Цi гэта былi проста шалёныя? Яны абганялi адны другiх, штаўхалiся, кусалiся зубамi, некаторыя падалi ад зьнемажэньня й слабасьцi. Іх таптaлi нагамi, i яны больш не паднiмалiся, наравiлiся ўстаць, але ня было сiлы. Яны ўмiралi, а жывыя ўсё беглi i беглi. Вось яны спынiлiся, зьбiлiся ў адну кучу, i мiж iмi пачалася страшэнная, жудасная бойка. Людзi зьвiлiся ў адзiн клубок, качалiся па зямлi i штось вырывалi з рук адзiн у другога.

— Дзядзечкi! што гэта яны робяць?—запытаўся Лявонка.

— А гэта, хлопчыку, галодныя людзi. Яны гналiся за пацуком i вось цяпер злавiлi яго, i кожны стараецца вырваць ад другiх гэты здабытак,—сказаў Новы Год.

— Глядзеце, глядзеце! — прамовiў Вецер. Вунь самы шчасьлiвы з iх: ён вырваў пацука i з якiм смакам рве яго зубамi i глытае цэлымi кавалкамi.

Лявонка адвёў вочкi ў другi бок, закрыў свой тварык i плакаў.

— У цябе добрае сэрца, сынок,—сказаў Новы Год.—А можа ты, сынку, ня хочаш пазiраць на голад?

— Не, я ня буду плакаць, я хачу бачыць усё.

І яны палялецелi далей. Дарога iх ляжала над страшнаю пустэляю, дзе ня было нiчога. Усюды валялiся трупы

косьці. Вёскі былі пустыя. Дзе-ні-дзе снаваліся цені. Яны падалі, падымаліся, ізноў кідаліся і ўміралі. Двары былі пустыя, хаты адчынены, там было холадна і цёмна.

Малюнкі, адзін другога страшней і жудасьней, разгортваліся на кожным кроку. Ніякае чалавечае ўяўленьне не магло нарысаваць таго, што рабілася тут.

— Я не магу глядзець на гэта, нясеце мяне адгэтуль, дзядзечкі!—плакаў малы Лявонка.

Тут Вецер надзьмуў свае шчокі, набраў духу, прысеў і падскочыў і разам узьляцеў на высокую Гару. І адразу стала сьвятлей на душы маленькага хлопчыка, бо тут было так прыгожа, так сьветла, ціха й цёпла. Зьніклі гэтыя сьнежныя раўніны, пустэлі, гэты холад і згрызоты зямлі і яе пакута. Гара была высыпана жоўценькім пясочкам. То тут, то там зеляналі на ёй тысячы вастраўкоў рознастайнай расьліны. У зялёных галінках шчабяталі птушачкі нязвычайнага хараства. Срэбныя ручаёчкі бліскучымі стужкамі зьзялі на сонцы, весела гаманілі ў сваіх беражкох, скачучы па чыстых, гладзенькіх каменьчыках. Іх журчаньне складала такую чароўную музыку, як-бы тут зьвінелі тысячы залатых струн. Над саменькаю вадою снаваліся, як белыя сьняжынкі, матылькі й рознакаляровыя стракозыбабкі, то ўзьлятаючы ўгору, то апускаючыся ўніз, чуць дакранаючыся вады.

— Ах, як добра тут!—прамовіў Лявонка.—Я хачу пагуляць тут.

— Спынімся тут,—сказаў Новы Год:—няхай пабегае тут Лявонка й пагуляе.

Вецер спусьціўся на Гару, прысеў на свае пту-

шыныя ногі, а Новы Год зноў узяў пад пахі Лявонку й спусьціў яго на жоўценькі пясочак.

Лявонка весела пабег на гэту Гару. Ён борзьдзенька йшоў па дарожках між зялёных дрэўцаў. Яго тут усё цікавіла, усё радавала і забаўляла.

Прабегшы адну дарожку, Лявонка вышаў на шырокую круглую палянку і спыніўся: тысячы, дзесяткі тысяч дзетак бегала тут, дзетак такіх мілых, такіх добрых. Тут былі й хлопчыкі й дзяўчынкі. Яны кружыліся так лёгка й ціха, што, здавалася, у іх ня было цела, як-бы яны былі вытканы з лёгкага, чыстага духу. Яны так згодна, так весела забаўляліся, што яны, здавалася Лявонку, былі найшчасьлівейшыя дзеці. Ён стаяў, глядзеў на іх. Яму дужа хацелася прылучыцца да гэтых дзетак, але ў яго не хватала сьмеласьці. Тут Лявонка заўважыў, што пясочак, на якім бегалі дзеці быў гладзенькі—ня было ніякіх сьлядкоў ад іх ножак.

Вось дзеці пабраліся за рукі і зрабілі шырокае кола. Але ў адно кола яны не зьмясьціліся, прышлося зрабіць яшчэ адно і яшчэ. Дзеці так міла кружыліся, што ня можна было адвясьці ад іх вачэй. І ня бегалі яны, а плавалі ў паветры.

Дзеці на момант спыніліся. На сярэдзіну самага меншага кола вышла прыгожая дзяўчынка й засьпявала:

„Ад зямлі мы далякі,
Мы ня маем хаткі;
Мы—сіроты, бедакі
Бяз мамы, бяз таткі.“

А хор дзетак смутнымі галаскамі засьпяваў:

„Нашы цельцы ляжаць там,—
Смутна, родненькія, нам!

Як скончыў сьпевы хор, гэта самая дзяўчынка зноў засьпявала:

„Станьце ў кола, сёстры, браткі,
Запляшчэце дружна ў ладкі!“

А хор адказаў:

„Новы Год ідзе да нас,
Хай-жа будзе добры час!“

Дзеці пачалі кружыцца, сьпяваць, а дзяўчынка выбегла з іх чародкі. Тут яна ўбачыла Лявонку й падышла да яго.

— Хто ты, хлопчык?—спытала яна.

— Лявонка.

— А скуль-жа ты?

— Я прыляцеў з Беларусі.

— Гэта адтуль, дзе хлеба многа?

— Не, хлеба ў нас мала.

— Мала?—спытала дзяўчынка:—а я чула, што ў вас хлеба многа.

— Я ня ведаю.

— Ты ня ведаеш? А як-жа ты папаў на нашу Гару галодных дзяцей?

— Мяне занёс сюды дзядзька Вецер з Новым Годам.

— Ага-а-а! дык ты, значыць, ня наш?

— А чаму ты гэтак пытаеш?

— А бачыш, Лявонка, усе дзеці на гэтай гары—дзеці галодных. Яны паўміралі ад голаду. Але калі нас падтрымаюць людзі на зямлі, то мы зноў родзімся на сьвет і прыдзем на зямлю. А калі помачы ня будзе, то мы застаёмся на гэтай гары.

Тут падышлі другія дзеці і акружылі Лявонку.

Лявонка пазіраў на іх, дзівіўся і ня ведаў, чым іх парадаваць, што ім сказаць.

— Вам тут весела?—спытаў іх Лявонка.

— Мы хочам жыць на зямлі!—хорам прамовілі дзеці.

— Памажэце галодным, мы зноў прыдзем да вас на зямлю.

Лявонка пачуў да іх вялікую жаласьць.

Тут падышоў дзядзька Вецер на сваіх пітушыных нагах.

— Ну, Лявонка, пара!—сказаў ён.

— Трэба ляцець, сынку!—сказаў і Новы Год.

Лявонка ўпаў на зямлю, абхапіў ногі Новага Году.

— Дзядзечка, міленькі, залаценькі! Прынясі нам многа-многа хлеба, каб гэтыя бедныя дзеці вярнуліся на зямлю!

Лявонка горка заплакаў і... прачнуўся.

# ЗЬМЕСТ


| | Стр. |
|---|---|
| Школа | 3 |
| Салавей | 9 |
| Дудар | 16 |
| Чоран | 18 |
| Страшнае спатканьне | 28 |
| „Дзеравеншчына“ | 38 |
| У старых дубох | 45 |
| Пад новы год | 54 |

